Год выданьня 66. № 613, Сакавік 2015 г.

*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС



ISSN 1054-9455

**BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World**
***Published by the Belarusan American Association, Inc.***

*Address:* **166-34 Gothic Drive**
**Jamaica, NY 11432, USA**
*E-mail:* **bielarus@bazahq.org**

***Шаноўныя чытачы!***

Вітаем вас на чарговай сустрэчы з вамі ў нашай беларускай газэце. Дзякуючы вашай дапамозе і нашай працы яна выходзіць у сьвет і падтрымлівае агеньчык беларускага грамадзкага жыцьця ў Амэрыцы.

Гэты нумар сакавіцкі, за той час, калі мы разам з вясною сустракаем наша вялікае нацыянальнае сьвята - Дзень Волі, угодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспубліцы. У папярэднім нумары мы віншавалі вас з надыходзячым сьвятам, а цяпер падаем інфармацыі, як Дзень Волі адсьвяткавалі беларусы ў Амэрыцы, у Беларусі і іншых краінах. З гэтага відаць, што ідэя сьвяткаваньня не згасае, а напаўняецца новымі набыткамі і дае натхненьне трымацца разам і падтрымліваць наша беларускае жыцьцё паўсюдна, дзе толькі мы ёсьць.

Падаем таксма і аналітычныя матэрыялы пра сучасную палітычную сытуацыю вакол Беларусі. Хацелі б зьвярнуць увагу на артыкул сп. Зянона Пазьняка пра сутнасьць фашысцкай ідэялёгіі, дзе падкрэсьліваецца, на наш погляд, новая дэталь. Звычайна слова "фашызм" асацыюецца ў нас з масавымі забойствамі, вайною, экстрэмізмам, чалавеканенавісьніцтвам. Але, гэта усё толькі праявы, дэталі, а сапраўдная сутнасьць і мэта - зьмяненьне прыроды чалавека, перетварэньне яго з Боскай істоты - свабоднага чалавека ў зомбі. У гэтым ёсьць галоўная небясьпека, якую нясе чалавецтву фашысцкая ідэялёгія, якая запанавала ў суседняй Расеі і ёсьць пагрозаю і для беларускай нацыі.

Таксама варта пазнаёміцца ўважліва з артыкулам сп. Валера Кавалеўскага пра зьмены амэрыканскай палітыкі ў дачыненьні да Беларусі, што таксама нясе для нашай краіны паўныя праблемы і наўпростаую небясьпеку. Тут варта дадаць, што інфармацыя тычыцца непасрэдна нас - амэрыканскіх беларусаў, якія павінны даводзіць да дзяржаўных уладаў Амэрыкі праўдзівую інфармацыю пра лукашэнкаўскі рэжым.

Не абыходзьце, калі ласка, вашай увагаю каляндар памятных датаў, які варта ўлічваць у плянах грамадзкай дзейнасьці. Напрыклад, у траўні спаўніцца 100 гадоў ад нараджэньня Івана Любачкі, якога старэйшыя амэрыканскія беларусы памятаюць, як стваральніка адмысловага фонда ў падтрымку беларускай моладзі.

Чытайце, глядзіце,пішыце і не забывайце падтрымліваць газэту фінансава.

*Рэдакцыя*

# Сьвяткаваньне 97-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР



**Нью-Ёрк**

22-га сакавіка ў Нью-Ёрку адбылося сьяткаваньне 97-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. У гэтым годзе Дзень Волі абьяднаў больш за сотню беларусаў, што пражываюць у Нью-Ёрку і яго навакольлях, сярод якіх было шмат ганаровых гасьцей.

Сьвяткаваньні пачаліся з Багаслужбы і малебна за Беларусь у Саборы Сьвятога Кірылы Тураўскага. Па сканчэньні службы ў грамадзкай зале, што пры царкве, адбылося адкрыцьцё выставы вядомага беларускага фотамастака ў ЗША Алеся Крыштаповіча. Акрамя выставы прысутныя мелі магчымасьць азнаёміцца і набыць рэдкія кнігі беларускага друку замежжа на кірмашы-выставе.





Афіцыйнае адкрыцьцё мерапрыемства пачалося ўрачыстым унясеньнем бел-чырвона белага сьцягу і выкананьнем гімну БНР "Мы выйдзем шчыльнымі радамі...".

З прывітальным словам і віншаваньнямі да грамады зьвярнулася старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, а таксама старшыня Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) Ганна Сурмач. Выступоўцы адзначылі важнасьць салідарнасьці і гуртаваньня беларусаў замежжа перад выклікамі сучаснасьці. З прамовай пра гістарычны шлях Беларусі да незалежнасьці выступіў старшыня аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку Андрэй Асадчы. Пра палітычную сытуацыю і небяспеку незалежнасьці краіны прысутным распавяў старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі – БНФ Зянон Пазьняк. Заключным выступам афіцыйнай часткі мерапрыемства стала прамова былога шматгадовага старшыні БАЗА Антонія Шукейлойца, які ў гэтым годзе будзе адзначаць свой стогадовы юбілей.







*Заканчэньне на 2-й бачыне*

# Дзень Волі ў ЗША



## Нью-Ёрк



*Заканчэньне з 1-й бачыны*

Працягнуў праграму сьвяточны канцэрт з ўдзелам гурту Litvakus, выступ якога быў сустрэты авацыямі аўдыторыі. Скончылася мастацкая частка народнымі сьпевамі ў выкананні трыа Аляксандры Турчэнковай, Алены Рыдзеўскай і Алы Орса-Рамана, а таксама паэтычнымі чытаньнямі вершаў Рыгора Барадуліна ў выкананьні Галіны Пазьняк.



Сьвяткаваньне Дня Волі ў гэтым годзе было вельмі шматлюдным і прайшло ў пазытыўнай сяброўскай атмасфэры! Што дае веры, што ідэалы 25-га сакавіка жывуць і будуць жыць!

***Андрэй Асадчы***

## Нью Брансвік

Сталася амаль ужо традыцыяй адзначаць кожныя ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці БНР у штаце Нью Джэрзі ў шыкоўнай залі гатэля Гайят у Нью Брансвіку. Сьвята ў гэтым годзе сумесна ладзілі Аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Джэрзі і суполка "Пагоня" з Нью-Ёрку. Сярод прысутных пераважала моладзь, было шматлюдна і прадстаўніча. Імпрэзу адкрыў старшыня Аддзелу БАЗА сп. Юрка Азарка. Былі зачытаныя прывітаньні ад старшыні Рады БНР сп. Івонкі Сурвіллы, ад кангрэсмэнаў Фрэнка Палона і Крыса Сміта. З прамоваю выступіў старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі — БНФ сп. Зянон Пазьняк, ад імя Галоўнай управы БАЗА прысутных вітала старшыня Ганна Сурмач. А. Зіновій прывітаў грамаду ад імя Беларускай Аўтакефальнай праваслаўнай царквы і зачытаў дасланы тэкст віншаваньня ад імя Уладыкі Сьвятаслава - першагерарха БАПЦ.

Асаблівую ўрачыстасьць падзеі надалі выкананьні гімнаў - амэрыканскага Вольгаю Казак і "Магутны Божа" Алесем Казаком. Трыё Валянціны Пархоменкі, Алеся і Вольгі Казакоў надзвычай упрыгожыла сьвята беларускімі мелёдыямі, якія часам выклікалі слёзы на вачах ад хваляваньня і сумных успамінаў пра Бацькаўшчыну, пра "мой родны кут", пад якім кожны разумеў свае родныя мясьціны. Але, урэшце перамагла аптымістычная налада і сьвята працягнулася вясёлымі скокамі, карагодамі ды танцамі.

***Валянціна Ганчар***

## Вашынгтон

Сёлеташняму сьвяткаваньню Дня Волі ў сталіцы Злучаных Штатаў Амэрыкі была прысьвечана адмысловая панэль па Беларусі, арганізатарамі якой выступілі амэрыканская няўрадавая арганізацыя Freedom House і аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Вашынгтоне.

Мерапрыемства было прысьвечана тэме будучых прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі.

З прывітальным словам да прысутных зьвярнуўся віцэ-прэзыдэнт па рэгіянальным праграмам Freedom House Робэрт Хэрман. Мадэратарам дыскусіі выступіў Арэст Дэйчакіўскі, старшы саветнік па пытаньнях палітыкі Хельсінскага камітэта ЗША. З амэрыканскага боку ў дыскусіі прынялі ўдзел былы амбасадар ЗША ў Беларусі Майкл Козак, а таксама рэгіянальны дырэктар па эўразійскаму рэгіёну Міжнароднага рэспубліканскага інстытуту Стэфан Нікс. Беларускі бок прадставіў сябра Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Валеры Кавалеўскі.

Пасьля прамоваў панэлістаў, у якіх выступоўцы выказалі свае бачаньне палітычнай сытуацыі ў Беларусі напярэдадні выбараў, адбылася дыскусія з удзелам прысутных у зале гасьцей.

Пад час мерапрыемства былі закранутыя шматлікія пытаньні як унутрапалітычнай сытуацыі ў краіне на пярэдадні выбараў, так і аспэкты зьнешняй палітыкі Беларусі і ЗША. Асаблівая ўвага была нададзеная абмеркаваньню пазыцыі афіцыйнага Менску па расейска-украінскім канфлікце, палітыкі ЗША ў дачыненьні Беларусі, патэнцыйным пагрозам незалежнасьці краіны, адсутнасьці палітычнай канкурэнцыі, а таксама праблеме правоў чалавека.

Асноўным пасылам выступоўцаў да ўладаў Беларусі стала патрабаваньне дэмакратычных пераменаў, якія будуць спрыяць стабільнасьці краіны як унутры, так і за яе межамі. Злучаныя Штаты зацікаўленыя і гатовыя падтрымаць Беларусь у гэтым накірунку.

***Андрэй Асадчы***

# Беларусь мае надзею:

## фларыдзкая моладзь і ганаровыя госці адзначалі Дзень Волі

Трыдцаціградусная сьпёка не перашкодзіла годна адсьвяткаваць Дзень Волі. Сьвяточнае мерапрыемства ў Маямі сабрала як беларусаў, пражываючых у Паўдзённай Фларыдзе, так і прыезжых гасьцей.

Сёлета Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі выбрала незвычайнае месца, каб адсьвяткаваць угодкі БНР. Разам з Алай Орса-Рамана, сакратаром адукацыі пры Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі, Івонка Сурвілла далучылася да сьвяточных мерапрыемстваў ля вады пад пальмамі, арганізаванымі Гуртком Беларуска-Амерыканскага Задзіночаньня ў Паўдзённай Фларыдзе.

Урачыстая акадэмія прайшла пад назвай "Беларусь: мы маем надзею" і аб'яднала некалькі прамоўцаў, што даказалі - Беларусь мае вялікі шанец вярнуцца да дэмакратычнага ўстрою.

Па-першае, Беларусь мае надзею, бо дэмакратычная незалежная дзяржава на Беларускіх землях гэта не новае. Як падкрэсьліла спадарыня Сурвілла, падмуркі закладзенныя былі амаль сто гадоў таму. Абвяшчэнне БНР - адна з самых значных падзеяў сучаснай гісторыі Беларусі, бо менавіта БНР, а не БССР, залажыла аснову беларускай дзяржаўнасці. Івонка Сурвілла правяла паралель з вядомай прамовай Марціна Лютэра Кінга "Я маю мару" пра Амерыку 60-х гадоў. Яны, чорнаскурыя амерыканцы, мелі мару пра праўдзівую дэмакратыю і роўнасць у сваёй краіне. І мы, Беларусы, маем усе падставы мець надзею на свабодную і дэмакратычную Беларусь.

Старшыня Гуртка БАЗА у Паўдзённай Фларыдзе Сяргей Волкаў падкрэсьліў, што галоўны і вырашальны прарыў у самасьвядомасьці беларусаў адбудзецца ўжо даўно. Яшчэ бацькі-заснавальнікі БНР адмаўляліся быць рускімі або бальшавікамі, яны атаясамлялі сябе не проста з народам, але і з нацыяй. "Беларускі народ не пачаўся з нашага пакаленьня, і гэта наш абавязак, каб на нашым пакаленьні і не скончылася" - звярнуўся да прысутных беларусаў спадар Волкаў.

Па-другое, Беларусь мае надзею, бо нават з'яджаючы за мяжу па тых ці іншых прычынах, беларусы не забываюцца на сваю Радзіму. "Прыкладам таму Беларуска-Амерыканскае Задзіночаньне БАЗА", - распавёў Вячка Станкевіч, - "Гэтая арганізацыя была заснавана ў 1949 годзе пасьляваеннай эміграцыяй беларусаў і з тых часоў актыўна спрыняецца да прамоцыі дэмакратыі і аховы правоў і свабод чалавека ў Рэспубліцы Беларусь". Арганізацыя актыўна гуртуе беларусаў не толькі на Фларыдзе. Пад час урачыстай акадэміі былі зачытаныя і сьвяточныя віншаваньні, якія даслалі беларусам Маямі Галоўная управа БАЗА і Гурткі БАЗА ў Брукліне ды Чыкага.

Па-трэцяе, і найважнейшае, Беларусь мае надзею, бо мае самавітых і сумленных людзей, якія працуюць дзеля яе карысьці. Падцьверджаньнем таму вынікі навуковых дасьледваньняў Паліны Прысмаковой, сакратара Гуртка БАЗА ў Паўдзённай Фларыдзе і кандыдата навук па дзяржаўным кіраваньні. Даследуючы матывацыю працы на Беларусі, Паліна наведала больш за 50 арганізацыяў Гарадзенскай вобласьці, мэтай якіх ёсць дапамагаць беспрацоўным, старэйшым, інвалідам і шматдзетным сем'ям. Вынікі паказалі, што многія працаўнікі як ў пазаўрадавых, так і ў дзяржаўных арганізацыях шчыра адданыя Беларусі і яе жыхарам. Яны не толькі спачуваюць тым, хто ў патрэбе, але і ахвотна далучаюцца ці нават самі распачынаюць праекты, каб палепшыць жыццё людзей. "Свабодная дэмакратычная Беларусь мае надзею на існаваньне, пакуль у ёй жывуць такія цудоўныя людзі", - падсумавала Паліна, - "Бо калі запытаешся іх, каго яны любяць? Адказ будзе: люблю Беларусь! А то узаемна!"

*27 Сакавіка 2015*
*Форт Лаўдардэйл, ЗША*



# Дзень Волі ў сьвеце

## Менск




25 сакавіка ў Менску традыцыйна сьвяткавалі ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Нягледзячы на тое, што акцыя адбывалася ў працоўны час, колькасьць людзей, якія ўзялі ў ёй удзел, была значнай.

Удзельнікі аздобілі акцыю бел-чырвона-белымі сьцягамі, сьцягамі Ўкраіны і Эўразьвязу. Сярод лёзунгаў на расьцяжках: «Што за бульба без укропа?», «Расея — гэта вайна», «Stop імпэрыя!», «Сегодня грызут Украину, завтра возьмутся за нас!», «Крым — Украіны, шчасьця краіне». Такім чынам, як адзначылі арганізатары акцыі, цэнтральнай тэмай мерапрыемства стала салідарнасьць з Украінай.

Пад час акцыі і пасьля яе былі затрыманыя некалькі чалавек.

## Таронта



У нядзелю 29 сакавіка сябры Згуртаваньня беларусаў Канады сабраліся ў беларускім грамадзка - рэлігійным цэнтры на Сьвята, прысьвечанае ўгодкам абвяшчэньня БНР. Пасля ўрачыстай багаслужбы і абеду ў сяброўскім коле былі зачытаныя віншаваньні, якія атрымалі ў ЗБК.

Першы даклад прэзэнтавала кандыдат гістарычных навук Галіна Сяргеева (у мінулым — старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі). Сп. Галіна не толькі распавяла пра гістарычныя падзеі, што датычыліся гэтай памятнай даты, але і пра іхныя наступствы, уздзеяньне на далейшую гісторыю Беларусі, ажно да нашых часоў.

Другі даклад ладзіў Першагерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, Архіепіскап Навагардскі і Паўночнаамэрыканскі Сьвятаслаў. З выкарыстаньнем гістарычных мапаў ён распавёў пра тое, як праз стагоддзі разам ішлі беларускі народ, беларуская дзяржава (ад старажытных княстваў да сучаснае Беларусі) і беларуская царква. На жывых прыкладах ён давodзіў, як са зьменамі межаў дзяржавы ды ўладаў, зьмяняліся межы ды жыцьцё нацыянальнае царквы, як цесна павязаныя лёсы Бацькаўшчыны й Царквы.

Паміж гістарычнымі расповядамі шмат радасьці і вясновага настрою прынесьлі сьпевы беларускага канадскага гурту «Яваровы людзі». Усе ў залі так прачуліся мілагучнымі беларускімі народнымі сьпевамі ды акторскім талентам гурту, што ў карагод разам з «Яваровымі людзьмі» сталі амаль усе прысутныя.



# Ад помніка Жызьнеўскаму да беларускай амбасады

25 сакавіка ў Кіеве Рух салідарнасьці «Разам» пры падтрымцы ўкраінскіх патрыятычных арганізацыяў правеў урачыстую дэманстрацыю ад памятнае дошкі Міхаілу Жызьнеўскаму на вуліцы Грушэўскага цераз Майдан Незалежнасьці да помніка Уладзімеру Караткевічу каля амбасады Рэспублікі Беларусь. Там адбыўся мітынг, сьпявалі гімн Украіны, а таксама «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і «Магутны Божа».

## Кіеў



## Прага



25 сакавіка ў Празе актывісты беларускай дыяспары прыйшлі на Альшанскія могілкі, каб ушанаваць памяць прэзыдэнтаў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Удзельнікі акцыі ўсклалі вянкі і кветкі на магілы прэзыдэнтаў Рады БНР Пятра Крэчэўскага і Васіля Захаркі, запалілі сьвечкі.

Намесьнік старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык сказаў, што заснавальнікі Беларускай Народнай Рэспублікі «жылі надзеяй — і перадалі гэтую надзею новым пакаленьням, тым, хто дамогся незалежнасьці Беларусі і хто сёньня змагаецца з аўтарытарным рэжымам на Бацькаўшчыне. Гэтая надзея, якую пранесьлі яны праз усё сваё жыцьцё, і якая дапаможа цяперашнім пакаленьням зрабіць Беларусь дэмакратычнай і вольнай».

Госьць з Менску - палітык і мовазнаўца Вінцук Вячорка сказаў, што чытаючы дакумэнты і публікацыі часоў Беларускай Народнай Рэспублікі, ён уражаны, наколькі дакладна аргумэнты непрыяцеляў БНР паўтараюцца сёньня тымі, каму недаспадобы беларуская незалежнасьць. Вячорка адзначыў, што абвяшчэньне БНР дазволіла легітымізаваць ідэю дзяржаўнасьці Беларусі і ў выпадку самай катастрафічнай для краіны сытуацыі (якую нельга дапусьціць) адрадзіць Незалежнасьць.



Таксама праскія беларусы і госьці зь Менску паклалі кветкі да магілы сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага.

**Пакуль што не існуе міжнароднага заканадаўства, якое прызнавала б дэзінфармацыйную вайну злачынствам супраць чалавецтва. Але неабходнасьць у такім заканадаўстве відавочная. І спрадзіў такую неабходнасьць не Гёбэльс і ня Трэці Райх, а Пуцін і расейскі імпэрыялізм.**

***Мы перажываем час, калі будучыня Беларусі становіцца ўсё больш залежнай ад разьвіцьця зьнешніх падзей. Але сутнасьць яе вызначаецца ўсё ж нашым унутраным беларускім існаваньнем. Тое, што было вядома і 10, і 20, і 25 гадоў таму пра Расею, як падпальшчыцу вайны, цяпер, у сувязі з агрэсіяй Масквы супраць Украіны, стала вядома і праявілася для шырокага насельніцтва ў Беларусі і ва ўсім сьвеце. І гэта нягледзячы на абсалютна сатанінскую прапаганду, якую вядзе Расея супраць Украіны, Беларусі й супраць усяго Захаду.***

# Зянон ПАЗЬНЯК:

# "Да пытаньня пра фашызм"



Найперш, расейская дэзінфармацыя – гэта ёсьць маштабнае пашырэньне міжнароднай нянавісьці, пазбаўленьне адэкватнага ўспрыняцьця рэчаіснасьці і дэзарганізацыя інтэлекту вялікіх масаў людзей. Расейскае грамадзтва, зацыкленае прапагандай на нянавісьці, жыве ў нерэальным сьвеце, створаным рэжымнымі СМІ, і ўспрымае рэчаіснасьць як другасную і нерэальную зьяву. Такі стан ёсьць адным са складнікаў паталогіі зомбі. Давядзеньне да псіхапатычнага стану ёсьць злачынства супраць людзей. Такое можа рабіць толькі злачынная ўлада. Тым больш, што накіраванасьць ілжывай крамлёўскай прапаганды з'арыентавана найперш супраць уласнага грамадзтва.

Хлусьня ў Расеі ёсьць мэханізмам, інтэгральнай часткай крамлёўскай палітыкі. На гэтым мэханізме будуюцца ўсе асноўныя падзеі і планы Крамля, усе вэрсіі забойстваў, вайны і дыпляматыі.

Апошняе палітычнае забойства апазыцыйнага палітыка Барыса Нямцова ў Маскве наскрозь пранізана гэтай тэхналёгіяй асаблівай кагэбоўскай рускай хлусьні (перад якой топчацца ў разгубленасьці рацыянальны Захад).

Адразу кідаецца ў вочы, што тут ня проста забойства, а палітычная спэцапэрацыя. Каб Нямцова хацелі проста забіць, то зрабілі б тое інакш, прасьцей, не пад мурамі Крамля і бяз сьведкаў. Спэктакль забойства задуманы з працягам, які стане хутчэй за ўсё накіраваны супраць Украіны. Менавіта таму (што зьдзівіла ўсіх) пакінулі жывога сьведку – украінскую дзяўчыну, якая была побач зь Нямцовым. Менавіта на яе могуць вешаць усіх хлусьлівых сабак, будаваць вэрсіі зь яе ўдзелам, фабрыкаваць факты, накіроўваць атаку і антыукраінскую прапаганду. Калі б яе таксама забілі, то ілгунам немагчыма было б сфабрыкаваць "украінскі сьлед". Тут (можна не сумнявацца) цяперашняя ўлады Расеі забойцаў ня знойдуць (і тым больш заказчыкаў), але апэратыўна іх прыдумаюць і падставяць. Тыя нават прызнаюцца ў забойстве. «Працэс пайшоў».

Гэта вядомая тэхналёгія расейскіх спецслужбаў была напоўніцу скарыстаная ў Беларусі пры так званым расьследваньні крывавага тэракту ў Менскім мэтро 11 красавіка 2011 года, калі абвінавачылі і расстралялі сумніўных выканаўцаў, вінаватасьць якіх засталася пад пытаньнем.

Акрамя таго гэтае дэманстратыўнае забойства і прапаганда вэрсіяў павінна адцягнуць увагу сьвету ад павольнага забіваньня ў расейскай турме ўкраінскай дзяўчыны Надзеі Саўчанкі, якую расейцы выкралі з тэрыторыі Украіны, кінулі за краты і сфабрыкавалі абвінавачваньне.

Гісторыя рускіх забойстваў паказвае, што калі зьдзяйсьняюць такую палітычную апэрацыю, то праз агентуру (рознымі спосабамі) адразу агучваецца фальшывая вэрсія і матывацыя забойства, якую КДБ прыдумаў і хацеў бы раскручваць.

Вэрсія, якую адразу пусьціла агентура ў Маскве, – гэта тое, што Нямцова забілі ўкраінцы (украінскія спэцслужбы), каб скампрамэтаваць Пуціна, маўляў, зваліць віну на яго.

Гэтакія паводзіны традыцыйна характэрныя для рускіх гэбоўскіх палітзабойцаў і, дарэчы, дакладна супадаюць з вэрсіяй, калі планавалі маё забойства ў 1996 годзе. Але тады здарылася непрадбачанае. На сэсіі рускай Думы нечакана выступіў старшыня Камітэту Дзярждумы па бясьпецы камуніст Віктар Ілюхін і паведаміў, што ў Польшчу перакінута 18 афіцэраў ЦРУ ЗША, якія павінны забіць аднаго ці двух лідараў БНФ, што там знаходзяцца (мелася на ўвазе мяне і Сяргея Навумчыка), а забойства зьвярнуць на Лукашэнку, каб скампрамэтаваць прэзыдэнта Беларусі і "друга" Масквы. Паведамленьне шырока разышлося ў СМІ. Мы праверылі факты па сваіх каналах і тэрмінова пакінулі Польшчу. Яны сапраўды плянавалі супраць нас нешта нядобрае ў Польшчы, але плян разваліўся пасьля нашага выезду ў ЗША.

Тут дадам, што камуніст Ілюхін (былы пракурор) быў даволі скандальнай, склочнай і балбатлівай асобай. Ён публічна па чарзе абвінавачваў Гарбачова, Ельцына й Пуціна ў здрадзе радзіме, выступіў галоўным абвінаваўцам супраць Пуціна і 2 сакавіка 2011 года накіраваў абвінавачваньне ў сьледчы аддзел ФСБ і прэзыдэнту Мядзьведзеву. У выніку праз два тыдні (19 сакавіка 2011 года) яго знайшлі мёртвым у загарадным доме пад Масквой. Як пішуць у такіх выпадках, сьмерць наступіла пры загадкавых абставінах. Хаця зразумела, што нічога загадкавага там не было. Але ніхто сур'ёзна не разьбіраўся ў таямніцах крамлёўскага двара.

Забойства Нямцова яшчэ раз высьветліла крымінальную сутнасьць расейскага фашызму, што б яны там цяпер ні прыдумвалі. Не атрымаецца ашукаць увесь сьвет, які яны ненавідзяць. Дарэчы, якраз актуальнымі робяцца словы Чэрчыля, які пасьля сканчэньня 2-й сусьветнай вайны заўважыў, што будучыя фашысты будуць на словах выступаць супраць фашызму, карыстацца нібыта антыфашысцкай фразеалёгіяй. Дакладна такое мы цяпер бачым і чуем. Расейскі фашызм абзывае ўвесь сьвет фашыстамі: украінцы ў іх – гэта фашысты, украінская ўлада – гэта "фашысцкая хунта", Эўразьвяз – гэта "эўрафашызм", НАТО – гэта агрэсіўны "фашысцкі" блок. Ёсьць у іхным разуменьні амэрыканскі "фашызм", эстонскі, прыбалтыйскі і нават "беларускі". Гэта ўжо вышэйшы пілатаж імпэрскай жоўці і злабы, бо больш антыфашысцкага народа, чым беларусы, наўрад ці знойдзецца. Словам, вакол адны "фашысты" й "ворагі" Расеі.

Тут адметная характэрнасьць якраз рускага імпэрскага фашызму. Для фашысцкай улады, каб утрымацца і кіраваць грамадзтвам, патрэбная ідэалогія абложанай крэпасьці й варожага сьвету, які намерваецца гэтую рускую крэпасьць разбурыць. Выключныя абставіны апраўдваюць выключныя дзеяньні.




Ёсьць шмат розных дэфініцый і азначэньняў фашызму. Але, на мой погляд, трэба зьвярнуць увагу перш за ўсё на сутнасныя адметнасьці гэтай зьявы, якія ўсюды аднолькавыя і ўсюды ёсьць. Гэта тое, што адрозьнівае фашызм ад іншага роду дыктатур і іншай рэпрэсіўнай улады.

Фашызм – гэта зьява XX-га стагоддзя. Яго карэньні (гнасеалогія) вырастаюць з агрэсіўнага маргіналізму. Таталітарная ідэалогія фашызма заснавана на паняцьцях і імпэратыве зьмяненьня чалавецтва прымусовымі мэтадамі. Мэханізмам для ажыцьцяўленьня гэтай ідэалогіі зьяўляецца абсалютная ўлада і таталітарная ваенная дзяржава.

XX-е стагоддзе спрадзіла некалькі відаў фашызму і адну сусьветную вайну паміж гэтымі відамі. Найперш гэта так званы нямецкі “нацыянал-сацыялізм” (скарочана “нацызм”), заснаваны на паняцьцях перавагі “арыйскай” расы і прымусовай сэлекцыі чалавецтва (зьнішчэньне “непаўнавартасных” людзей і на-родаў), вынікам чаго павінна было стацца быцьцам бы паляпшэньне чалавечай прыроды, расавая ўніфікацыя насельніцтва Зямлі і вырошчваньне звышчалавека (мутацыя выбраных людзей, якія павінны кіраваць народамі і чалавецтвам).

Другі від фашызму, які ўзьнік адначасна і, практычна, сумесна зь нямецкім нацызмам – гэта так званы рускі (савецкі) “камунізм” (пазьнейшае азначэньне – “камуна-фашызм”). Камунізм заснаваны на паняцьцях пабудовы грамадзтва калектыўнай уласнасьці і калектыўнага спажываньня, якое ствараецца прымусовымі мэтадамі, шляхам забароны прыватнай уласнасьці, ліквідацыі (зьнішчэньні) яе маёмкаў і сацыяльнай сэлекцыі людзей у дачыненьні да сацыяльнага паходжаньня, адносінаў да ўласнасьці і ідэалогіі камунізму. У выніку на аснове ніжніх сацыяльных немаёмасных (але працаздольных) пластоў грамадзтва (так званага «пралетарыяту») павінен быў быць усталяваны “камунізм” ва ўсім сьвеце з адзінай мовай, прымусовай працай, пралетарскай культурай і грамадзтвам роўных людзей.

Улады фашызму ў XX стагоддзі каштавалі народам дзясяткі мільёнаў страчаных жыцьцяў, адзначыліся войнамі, рэпрэсіямі, разбурэньнем культуры, матэрыяльных каштоўнасьцяў, зламаньнем лёсаў людзей.

XXI стагоддзе ахарактарызавалася зьяўленьнем новага віду фашызму – гэбізму ў Расеі (улады КГБ – выканаўчай рэпрэсіўнай сілы былога рускага савецкага камунізму). Гэбізм на сёньняшні дзень сфармаваў імпэрскую фашысцкую ідэалогію (“русский мир”), вызначыў мэты (пашырэньне “русского мира”), абазначыў ворагаў (Эўропа, Захад, “англа-саксонскі сьвет”) і прыступіў да ажыцьцяўленьня глабальнай мэты праз агрэсію і падрыхтоўку вайны.

Рускі фашызм (гэбізм) заснаваны на падобным сіндроме, як і нямецкі “нацызм” у 20-х гадах мінулага стагоддзя – на пачуцьцях гістарычнай паразы (паўраспад СССР), на імкненьні аднавіць імпэрскую “справядлівасьць”.

Агрэсіўным рухавіком рускай імпэрскай крыўды ёсьць міфалогія імпэрскай перавагі, пагрунтаваная не на арыйскай дактрыне, як у немцаў, а на месіянскім уяўленьні пра ратавальную ролю Расеі ў гісторыі чалавецтва. Маўляў, не за свае інтарэсы ваюе Расея ў Грузіі, ва Украіне, а з агрэсіяй Захаду (НАТО, ЗША і г.д.), каб выратаваць народы ад заходняй (“фашысцкай”) чумы і ўратаваць чалавецтва. А таму Расея мае права пасылаць войскі туды, дзе гучыць руская мова, якая ёсьць самая вялікая і дасканалая ў сьвеце (яны так і думаюць). І тым больш, маўляў, Расея мае права першай ўжыць атамную зброю. Такое палажэньне (пра першы атамны ўдар) ўведзена ў новую (2014 года) ваенную дактрыну Расеі. Гэтым перакрэслены амаль семдзесят гадоў гісторыі змаганьня за мір і ўсталяваньне спакою ў Эўропе. Засьцерагальнік вайны (неўжываньне атамнай зброі першым) спушчаны.




Пасьля 2-й Сусьветнай вайны людзі зразумелі, што для ўсталяваньня міру ў Эўропе неабходна беззваротна зьнішчыць нямецкі мілітарызм, ліквідаваць машыну й магчымасьць нямецкага ўзбраеньня. Гэтая мэта была дасягнута.

У дачыненьні да Расеі галоўнай пагрозай міру і крыніцай вайны ёсьць не мілітарызм, а сама імпэрыя, сама геапалітычная сістэма Расеі, пабудаваная па схемах XIX стагоддзя. Імпэрыя (яе форма, структура, мэханізм) павінна быць ліквідавана. Гэта неабходнасьць дзеля міру ў Эўропе. Складанасьць, аднак, у тым, што распад такой сістэмы магчымы цяпер толькі ў выніку вайны, якой акрамя Расеі ніхто ня хоча. Але гэтага якраз і дастаткова, каб вайна была. І яна ўжо, фактычна, пачата пасьля нападу Расеі на Украіну.

Якая б цяпер з розных бакоў ні чулася дэмагогія ў сьвеце, мы – беларусы – павінны падтрымліваць Украіну і зыходзіць з горшага сцэнару – рэальна рыхтавацца да абароны сваёй Айчыны. Тады выстаім і пераможам.

*8 сакавіка 2015 г.*

# Каляндар памятных датаў на травень




**1 траўня - 100** гадоў таму, у 1915 годзе, нарадзіўся **Іван Любачка**, настаўнік, гісторык, дзеяч эміграцыі у Нямеччыне і ЗША

**3 траўня - Сусьветны дзень свабоды друку**

**7 траўня - Сьвята Абраза Маці Божай Жыровіцкай**

**8 траўня - Сусьветны дзень Чырвонага Крыжа і Паўмесяца**

**8 траўня - 70** гадоў таму, у 1945 годзе, ў Бэрліне падпісаны **Акт аб капітуляцыі Нямеччыны**

**13 траўня - 110** гадоў таму, у 1905 годзе, нарадзілася **Стэфанія Станюта**, артыстка

**14 траўня - 20** гадоў таму, у 1995 годзе, у Беларусі адбыўся **антыканстытуцыйны рэфэрэндум**, які зьмяніў дзяржаўную сымболіку, надаў расейскай мове статус дзяржаўнай, адобрыў эканамічную інтэграцыю з Расеяй

**15 траўня - 170** гадоў таму, у 1845 годзе, нарадзіўся **Іван Чэрскі**, удзельнік паўстаньня 1863-64, геоляг, географ, дасьледчык Сібіры

**17 траўня - 170** гадоў таму, у 1845 годзе, нарадзіўся **Мікалай Нікіфароўскі**, этнограф і фальклярыст

**18 траўня - Міжнародны дзень музэяў**

**18 траўня - 105** гадоў таму, у 1910 годзе, памерла **Элаіза Ажэшка**, польска-беларуская пісьменьніца

**20 траўня - 50** гадоў таму, у 1965 годзе, памёр **Антон Жэбрак**, генэтык, селекцыянер, грамадзкі дзеяч

**22 траўня - 115** гадоў таму, у 1900 годзе, нарадзіўся **Мікола Касьпяровіч**, краязнавец, літаратуразнавец

**24 траўня - Дзень славянскай пісьменнасьці**

**24 траўня - 85** гадоў таму, у 1930 годзе, нарадзілася **Галіна Русак**, мастачка, дзеячка эміграцыі ў ЗША

**25 траўня - 110** гадоў таму, у 1905 годзе, нарадзіўся **Сяргей Хмара**, грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, журналіст, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе

**27 траўня - 115** гадоў таму, у 1900 годзе, нарадзіўся **Уладзімір Жылка**, паэт

**29 траўня - 45** гадоў таму, у 1970 годзе, у Парыжы памёр **Мікола Абрамчык**, прэзыдэнт Рады БНР (1947-1970)

# ЗША дагаджаюць Лукашэнку, каб утрымаць яго нейтралітэт па Украіне

## Валер Кавалеўскі:

***Вайна Расіі супраць Украіны істотна палепшыла становішча Лукашэнкі на Захадзе. Беларускі кіраўнік знаходзіўся ў глыбокай ізаляцыі пасля палітычных рэпрэсій 2010 года. Апошнім часам Захад змяніў сваё стаўленне да Лукашэнкі, нягледзячы на тое, што ён прытрымліваецца сваіх рэпрэсіўных метадаў кіравання. Дзярждэпартамент ЗША адмаўляе, што адбываецца змена палітыкі па Беларусі, аднак перакаліброўка палітыкі выглядае занадта значнай.***

***Гэты зрух у палітыцы ЗША выглядае як імправізаваная рызыковая стаўка, асабліва калі ўлічваць, што Лукашэнка неаднаразова абводзіў Захад вакол пальца.***



Змена палітыкі па Беларусі адбываецца ў кантэксце канфлікту ва Украіне. ЗША імкнуцца забяспечыць нейтралітэт Беларусі і такім чынам падтрымаць Украіну ў супрацьстаянні з Расіяй.

Злучаныя Штаты лічаць магчымым верыць у тое, што Лукашэнка — хоць ён і ненадзейны, залежны ад Пуціна і супярэчлівы па Украіне — можа адыграць станоўчую ролю ў канфлікце. Выглядае, што гэтым тлумачыцца адмова амерыканцаў ад ціску на рэжым.

Афіцыйныя прадстаўнікі ЗША называюць Лукашэнку міратворцам, хаця Беларусь не ўдзельнічае ў перамовах па Украіне.

**Мінскія перамовы й адпаведныя пагадненні ўвогуле варта разглядаць як падарунак для беларускай дыпламатыі, а не як яе дасягненне.**

Амерыканская дыпламатыя паказвае, што яна будзе ўстрымлівацца ад практычных захадаў ціску на рэжым Лукашэнкі. Больш за тое, ЗША распачалі нармалізацыю адносін, нягледзячы на тое, што ён не выканаў іх уласнай галоўнай перадумовы — вызвалення палітычных зняволеных.

Змены ў рыторыцы відавочныя. Раней ЗША крытыкавалі беларускія рэаліі і прапаноўвалі ўмовы для нармальных адносінаў. Цяпер амерыканскія дыпламаты сціпла гавораць пра наяўную «розніцу ў ацэнках сітуацыі ў Беларусі».

**Падчас публічнага мерапрыемства, якое адбылося ў Вашынгтоне ў снежні 2014 года, намесніца дзяржаўнага сакратара Вікторыя Нуланд паведаміла, што сустракалася ў верасні з прэм'ер-міністрам Беларусі ў Нью-Йорку. Для Беларусі гэта даволі высокі ўзровень палітычнага кантакта. Таксама Нуланд паведаміла важную навіну: ЗША прадставілі беларускаму боку канкрэтныя прапановы па паляпшэнні адносінаў. Па яе словах, далейшы прагрэс залежыць ад Беларусі. Раней, падчас мерапрыемства ў Цэнтры Вільсана ў Вашынгтоне, намеснік Нуланд Эрык Рубін гаварыў пра Акт аб дэмакратыі ў Беларусі (АДБ) як перашкодзе да паляпшэння двухбаковых адносінаў. АДБ, які Кангрэс ЗША прымаў тройчы, увёў шэраг абмежаванняў на адносіны з Беларуссю й абумовіў іх скасаванне «відавочным прагрэсам урада Беларусі згодна з мэтамі Закона».**

У гэтай сувязі ЗША ажыццявілі шэраг захадаў насустрач рэжыму па-за межамі АДБ. У мінулым снежні амерыканскі ўрад зняў санкцыі з «Трастбанка», уведзеныя ў 2004 годзе за адмыванне грошай.

У студзені 2015 года «Беларуськалій» адгрузіў першую за шэсць гадоў партыю калійных угнаенняў у ЗША. У мінулым годзе дзярждэпартамент без лішняй агалоскі вывеў «Беларуськалій» з-пад санкцый пасля таго, як урад Беларусі выдзеліў прадпрыемства са складу «Белнафтахіма». Не выключана, што па падобнай схеме будуць зняты санкцыі з гродненскага «Азота».

Дзярждэпартамент займае невыразную пазіцыю да супярэчлівага праекта будаўніцтва АЭС у Беларусі. У снежні 2010 года, за некалькі тыдняў да прэзідэнцкіх выбараў, бакі нечакана падпісалі мемарандум на ўзроўні міністраў замежных спраў (Мартынаў-Клінтан). ЗША падтрымалі ідэю будаўніцтва АЭС, а Беларусь пагадзілася вывесці ў Расію свае запасы высокаўзбагачанага ўрану.

**У адказ на жорсткую рэакцыю ЗША на паслявыбарныя рэпрэсіі, Беларусь адмовілася ад выканання дамоўленасці і спыніла вывад урану. У сваю чаргу Злучаныя Штаты ад сваёй станоўчай пазіцыі па АЭС не адмовіліся, нават нягледзячы на адмоўную грамадскую рэакцыю і на значны ціск Літвы.**

Эрык Рубін наведаў Беларусь 26-28 лютага, каб сустрэцца з Лукашэнкам. Ён меў магчымасць асабіста даставіць яшчэ адну прыемную навіну. За дзень да прыезду Рубіна дзярждэпартамент зняў санкцыі з «Беларуснафты», што былі ўведзеныя ў 2011 годзе згодна з Законам аб санкцыях супраць Ірана.

**Разам з тым, выйшла вельмі паказальна, што падчас візіту Рубіна адбыліся дзве драматычныя падзеі са значным сімвалізмам. Яны павінны былі нагадаць усім, хто няпэўны наконт матываў і асобы Лукашэнкі, аб метадах яго кіравання й утрымання ўлады.**

Па-першае, 26 лютага суд падоўжыў на яшчэ адзін год турэмны тэрмін міжнародна прызнанаму палітычнаму зняволенаму Мікалаю Дзядку. Дзядка абвінавачвалі ў парушэнні формы вопраткі ў турме. Гэта яму каштавала год волі. Яго 4,5-гадовы тэрмін зняволення павінен быў скончыцца 3 сакавіка.

Па-другое, на наступны дзень быў забіты Барыс Нямцоў — выбітны расійскі дэмакрат, паслядоўны апанент Пуціна й сябра сапраўды вольнай і незалежнай Беларусі.

**Для многіх у нашай краіне забойства Нямцова стала напамінам пра тое, што здарылася з найбольш заўважнымі апанентамі Лукашэнкі ў Беларусі. Яны зніклі, іх кідалі ў турмы, пагрозамі й ціскам прымушалі з'ехаць з Беларусі ці адмовіцца ад працягу палітычнай і грамадскай дзейнасці.**

У выніку мэтанакіраваных сістэмных рэпрэсій рэжыму палітычная канкурэнцыя ў Беларусі знікла. У 90-х беларускае грамадства магло заявіць цэлы шэраг здольных лідараў, якія былі годнай альтэрнатывай Лукашэнку. Пасля 20 гадоў уладарання Лукашэнкі грамадства аслаблена, як ніколі, і не можа вылучыць і падтрымаць лідараў, здольных кінуць выклік рэжыму.

**Злучаныя Штаты ніяк не адрэагавалі на новы прысуд Дзядку, хоць раней гэта было звычайнай практыкай.**

Аднак акрамя гэтай заўважнай справы, у Беларусі штодзённа адбываюцца сур'ёзныя парушэнні правоў чалавека, якія адсочваюцца праваабаронцамі. Нягледзячы на відавочна адмоўную дынаміку з правамі чалавека ў Беларусі, усё больш гучнае маўчанне ЗША стала нормай паводзінаў амерыканскай дыпламатыі.

Адметна, што, у адрозненне ад дзярждэпартамента, прэзідэнцкая адміністрацыя Абамы публічна не памяняла пазіцыю па Беларусі з чэрвеня 2014 года. Тады прэзідэнт ЗША працягнуў на яшчэ адзін год нацыянальнае надзвычайнае становішча ў дачыненні Беларусі, паколькі «дзеянні і палітыка некаторых членаў урада Беларусі і іншых асобаў працягваюць уяўляць нязвыклую і надзвычайную пагрозу нацыянальнай бяспецы і знешняй палітыцы Злучаных Штатаў». Упершыню гэты захад ЗША ўжылі пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 года, калі Лукашэнка застаўся прэзідэнтам на трэці тэрмін і канчаткова згубіў міжнародную легітымнасць.

Звяртае таксама ўвагу тое, што дзярждэпартамент хутка мяняе палітыку па Беларусі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Лукашэнка зрабіў усё, каб выключыць канкурэнцыю на выбарах праз разбурэнне палітычнай апазіцыі і ўціск грамадзянскай супольнасці.

**Змена палітыкі ў дачыненні да кіраўніка Беларусі менавіта зараз можа азначаць, што ЗША ўжо гатовыя пагадзіцца з тым, што Лукашэнка захавае ўладу пасля выбараў. Разам з тым, застаецца адкрытым пытанне, ці будуць вынікі гэтых выбараў прызнаныя легітымнымі ва ўмовах адсутнасці вяршэнства права і палітычнай канкурэнцыі.**

Непаслядоўнасць Злучаных Штатаў у скарыстанні ўласных рашэнняў датычна Лукашэнкі бянтэжыць. Тым часам яго рэжым набліжаецца да складанага перыяду. Беларуская эканоміка вельмі слабая, а галоўны спонсар Лукашэнкі, Расія, імкліва ўваходзіць у стан рэцэсіі. Беларусі надзвычай важна атрымаць новы крэдыт МВФ. Да таго ж Лукашэнка і сам занепакоены агрэсіўнымі паводзінамі Масквы й імкнецца нармалізаваць адносіны з Захадам. Тым не менш, Злучаныя Штаты асэнсавана паставілі сябе на пазіцыю слабога, хоць маюць неабходны арсенал і падставы заставацца паслядоўнымі і цвёрдымі.

Няясна, што дзярждэпартамент бачыць у якасці свайго жаданага выніку ад новага падыходу да Беларусі. Асобнага вывучэння заслугоўваюць мэты і задачы ЗША у Беларусі.

**Працэс непразрысты, публічныя заявы разыходзяцца з практычнымі дзеяннямі, і беларускі бок не прадставіў аніякіх заўважных крокаў насустрач, акрамя працягу ціску на грамадства. Нельга выключаць і наступствы: агрэсіўную рэакцыю раўнівай Расіі і/ці узмацненне рэпрэсій у Беларусі. Выглядае на тое, што новы падыход амерыканцаў да Лукашэнкі дыктуецца іншымі прыярытэтамі, якія не маюць наўпроставага дачынення да беларуска-амерыканскіх адносінаў і нацыянальных інтарэсаў Беларусі.**

# Кангрэс ЗША прыняў рэзалюцыю аб пастаўках зброі Украіне

**Рашэнне прынята абсалютнай большасцю галасоў.**

Адпаведную рэзалюцыю Палата прадстаўнікоў амерыканскага кангрэса прыняла ў аўторак, 24 сакавіка. За дакумент, які носіць рэкамендацыйны характар, прагаласавалі 348 заканадаўцаў, супраць - 48.



У рэзалюцыі ўтрымліваецца заклік да прэзідэнта ЗША «прымяніць дадзеныя яму кангрэсам паўнамоцтвы для выдавання Украіне смяротнага абарончага ўзбраення». На думку аўтараў дакумента, такі крок дазволіць «павялічыць магчымасці ўкраінскага народа для абароны суверэнітэту».

У дакуменце ўказваецца на тое, што «незалежная, дэмакратычная і квітнеючая Украіна адказвае нацыянальным інтарэсам ЗША».

«Калі мы дапусцім агрэсію ў дачыненні да Украіны і застанемся ўбаку, не даўшы ўкраінцам хоць бы магчымасць абараняцца, то дамо тым самым сігнал сусветнай супольнасці пра тое, што наша гатоўнасць падтрымліваць мірапарадак, што склаўся пасля Другой сусветнай вайны, паменшылася», - сказаў адзін з аўтараў рэзалюцыі рэспубліканец Эд Ройс. Яго сааўтар дэмакрат Эліёт Энджэл заявіў, што «народ Украіны не разлічвае на амерыканскія войскі». «Яны проста хочуць атрымаць узбраенне для таго, каб абараняцца», — сказаў ён.

# Стаць грамадзянінам будзе лягчэй

Атрымаць беларускае грамадзянства цяпер стане лягчэй. Гэта вынікае з тых паправак да закона «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь», якія 2 красавіка прынялі ў першым чытанні дэпутаты Палаты прадстаўнікоў.

Галоўная навацыя ў змяненні — гэта спрошчаны парадак атрымання грамадзянства Рэспублікі Беларусь тымі людзьмі, якія раней не з'яўляліся грамадзянамі СССР.




Як патлумачыў міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч, які прадстаўляў закон, грамадзяне, якія нарадзіліся пасля распаду Савецкага саюза, нарадзіліся па-за межамі Рэспублікі Беларусь, але маюць этнічныя беларускія карані, цяпер, калі гэта папраўка да заканадаўства запрацуе, змогуць атрымаць беларускае грамадзянства ў спрошчаным парадку.

Таксама прэтэндаваць на беларускае грамадзянства змогуць дзеці, якія нарадзіліся ў Рэспубліцы Беларусь ад бацькоў без грамадзянства.

Законапраектам таксама ўстаноўлены так званы цэнз аседласці. Гэта азначае, што для таго, каб хадайнічаць аб атрыманні беларускага грамадзянства, чалавеку трэба пражыць без выезду на тэрыторыі Беларусі не менш за 7 гадоў.

Адказваючы на пытанне дэпутатаў, Ігар Шуневіч сказаў, што гэтыя змены ўводзяцца для таго, каб павялічыць колькасць грамадзян Рэспублікі Беларусь, асабліва тых, хто мае этнічныя беларускія карані.

Міністр унутраных спраў сказаў, што ў Беларусі Аляксандр Лукашэнка кожны квартал падпісвае ўказ аб набыцці замежнымі грамадзянамі грамадзянства Рэспублікі Беларусь. Звычайна ў такім указе прыкладна 100 прозвішчаў. Прычым, выходзяць з беларускага грамадзянства ў паўтара разы меней, чым жадаюць яго набыць.

Пераважна хадайнічаюць аб набыцці беларускага грамадзянства людзі, якія нарадзіліся на тэрыторыі былога СССР. «Зараз акцэнт, з вядомых вам усім прычын, перамясціўся ва Украіну», — адзначыў Ігар Шуневіч.

*Паводле Радыё Свабода*

# У Беларусі супадаюць падыходы да сямейных вартасцяў

Намеснік міністра замежных спраў Беларусі Валянцін Рыбакоў правёў у штабкватэры ААН у Нью Ёрку прэзентацыю кнігі «Беларусь і мусульманскі сьвет». Яе аўтарам стаў беларускі гісторык Уладзімір Ліхадзедаў.

«Валянцін Рыбакоў адзначыў супадзеньне і сугучнасьць падыходаў і прыярытэтаў Беларусі і краін - чальцоў Арганізацыі ісламскага супрацоўніцтва (АІС) на міжнароднай арэне, найперш у такіх галінах, як сямейныя вартасьці, рэлігійная памяркоўнасьць, устойлівае разьвіцьцё. Намеснік міністра выказаў спадзяваньне, што кніга «Беларусь і мусульманскі сьвет» дапаможа дзяржавам - чальцам АІС больш даведацца пра Беларусь, пра яе паважлівае стаўленьне да мусульман і ісламу, пра намеры мацаваць шматпланавае узаемавыгаднае супрацоўніцтва на міждзяржаўным узроўні», - паведамілі ў МЗС Беларусі.

«Прэзентацыя адбылася на спецыяльна скліканай сустрэчы кіраўнікоў дыпламатычных місій краін-чальцоў АІС пры ААН», - растлумачылі ў міністэрстве. Зьвяртаючыся да ўдзельнікаў сустрэчы, Валянцін Рыбакоў звярнуў увагу, што ў Беларусі ўжо досыць даўно жывуць мусульмане, у краіне склалася трывалыя традыцыі талерантнага і паважлівага стаўлення беларусаў да ісламу і людзей, якія вызнаюць гэтую рэлігію.

«Пад час абмену думкамі замежныя дыпламаты выказалі падтрымку ініцыятывам і лідэрскай ролі Беларусі ў ААН у пытаннях барацьбы з гандлем людзьмі і абароны традыцыйных сямейных вартасьцяў», - адзначылі ў МЗС Беларусі.




*Максім Багдановіч.*

# Эмігранцкая песьня

Ёсць на сьвеце такія бадзягі,  
Што не вераць ні ў Бога, ні ў чорта.  
Ім прыемны стракатыя сьцягі  
Караблёў акіянскага порта.  
І няма ім каго тут пакінуць,  
Бо нікога на сьвеце не маюць.  
Ўсёё ім роўна: ці жыць, ці загінуць, —  
Аднаго яны моцна жадаюць:  
Пабываць у краях незнаёмых,  
Ды зазнаць там і шчасьця і гора,  
І загінуць у хвалях салёных  
Белапеннага сіняга мора.  
Але мы — не таго мы шукаем,  
Не таго на чужыне нам трэба.  
Не расталіся б мы з нашым краем,  
Каб было дзеля нас у ім хлеба.  
І на вуліцы пад грукат, пад гоман,  
Дзе натоўп закручуўся рухавы,  
Нам маячыцца вёсачка, Нёман  
І агні партавыя Лібавы.

***«НН». №17. 1914.***



# Беларуска - чэмпіёнка Еўропы

Беларуская цяжкаатлетка Дзіна Сазанавец стала чэмпіёнкай Еўропы паводле сумы дваябор'я ў вагавой катэгорыі да 69 кг.

Кантынентальнае першынство праходзіла ў Тбілісі. Вынік спартсменкі - 255 кг (у рыўку - 115 кг, у штуршку - 140 кг). Такім чынам яна абараніла свой тытул чэмпіёнкі кантынента, які быў здабыты ў мінулым годзе.



# Вялікі крыштальны глобус Домрачавай

Сёлета ў расейскім Ханты-Мансійску праходзіў апошні этап Кубку сьвету па біятлоне. Апошнім пунктам праграмы быў жаночы масстарт, дзе мусіў вырашыцца лёс Вялікага крыштальнага глобуса – пераможцы агульнага заліку. На яго прэтэндавалі беларуска Дар'я Дамрачова і фінка Кайса Макарайнен. У выніку беларуска з двума промахамі была чацьвёртай, а фінка – толькі трынаццатай.

Раней Дамрачова двойчы займала другое месца ў агульным заліку Кубка сьвету ў сэзонах 2011/12 і 2012/13, а таксама адзін раз трэйцэ у сэзоне 2013/14.

# Новыя кнігі пра эміграцыію: дакумэнты і факты

***Тры новыя кнігі пра жыцьцё беларусаў замежжа ў пачатку красавіка прэзэнтавалі ў Музэі Максіма Багдановіча ў Менску, а таксама пагаварылі пра тое, што рабіць, каб не страціць каштоўныя набыткі эміграцыйнай гісторыі.***

Зборнік "Рада БНР (1970—1982): Падзеі і дакумэнты", укладзены Натальляй Гардзіенка і Лявонам Юрэвічам, — гэта ўжо другая кніга, прысьвечаная пасьляваеннай дзейнасьці самага старога ў сьвеце «урада ў выгнаньні».



Кніга рэпрэзентуе перыяд кіраваньня Радаю прэзыдэнта Вінцэнта Жука-Грышкевіча. Тут можна знайсьці дакумэнты, пратаколы паседжаньняў, ліставаньні і фотаздымкі. Гісторык Натальля Гардзіенка падкрэсьліла, што 1970-я гады былі няпростым часам для Рады, бо якраз назіраліся паляпшэньні ў дачыненьнях паміж Захадам і СССР. Адпаведна ўвага да антыкамуністычна скіраваных эміграцыйных арганізацый з боку заходніх структур зьменшылася, і Радзе БНР даводзілася шукаць новыя шляхі, каб працягваць дзейнасьць. Ужо рыхтуецца і аналагічны працяг кнігі, які будзе адлюстроўваць перыяд кіраўніцтва наступнага старшыні – Язэпа Сажыча.



Алена Макоўская

Выданне стала 23-м у серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны», у якой ужо 11 гадоў выходзяць кнігі, прысьвечаныя беларускай эміграцыі. Старшыня Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Алена Макоўская зазначыла: "Наша дыяспара сёння – гэта больш як тры мільёны людзей і каля 200 асяродкаў. Для нас гэта не толькі велізарны чалавечы патэнцыял, але і культурніцкі, бо гэта людзі, якія ў розныя часы запачаткоўвалі культурніцкія цэнтры, будавалі бібліятэкі, стваралі музэі, друкавалі кнігі, выдавалі газэты. Шмат нашых суайчыннікаў сталі вядомымі ў іншых краінах сьвету. Вялікая роля менавіта заходняй эміграцыі ў тым што яна захоўвала культуру, літаратуру і традыцыі, у той час калі тут быў Савецкі Саюз. Гэтыя людзі першыя віталі незалежнасьць Беларусі, яны першыя працягнулі руку, калі ў нас здарыўся Чарнобыль. І сёньня вельмі важна захаваць эміграцкую спадчыну, перадаць яе нашчадкам".

Натальля Гардзіенка таксама прэзэнтавала чарговы выпуск "Запісаў" Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку, рэдактарам якога яна зьяўляецца. Кожны выпуск гэтага зборніку прыносіць шмат новай інфармацыі для дасьледчыкаў гісторыі беларускай дыяспары і для ўсё беларускай гістарычнай навукі.

Трэйцяя прэзэнтаваная кніга – відаць, можа найбольш зацікавіць не толькі дасьледчыкаў. Называецца яна вуз-ка-спецыяльным словам «Відымусы», што азначае завераныя вытрымкі з дакументаў. У кнігу якраз і ўвайшлі фрагмэнты з розных эміграцыйных дакумэнтаў, якія паказваюць сумныя і сьмешныя эпізоды з жыцьця беларускіх дзеячаў, а таксама мае камэнтары да іх. Аўтар кнігі Лявон Юрэвіч – архівіст і літаратуразнаўца з Нью-Ёрку.



Натальля Гардзіенка

Кніга "Відымусы" складаецца з маленькіх займальных дэталяў, разнастайных сюжэтаў, якія дэманструюць асаблівасці пэўных сітуацый на эміграцыі і часу ў цэлым – перад і пасля вайны. Аўтар прадмовы да кнігі, літаратуразнаўца і крытык Ганна Кісліцына, распавяла, што знайшла тут праўду пра мінулае, але не загладжаную і стэрылізаваную, як часта бывае, а жывую і цікавую.



## Памёр пісьменнік Гюнтэр Грас

Пісьменнік і ляўрэат Нобелеўскай прэміі ў літаратуры Гюнтэр Грас памёр ва ўзросце 87 гадоў у шпіталі горада Любек раніцай 13 красавіка.



Гюнтэр Грас нарадзіўся ў 1927 годзе ў Гданьску (з 1945 года - польскі горад Гданьск). Дэбютны раман Граса - «Бляшаны барабан» - быў выдадзены ў 1959 годзе. У 1999 годзе Грас атрымаў Нобелеўскую прэмію з фармулёўкай «Ягоныя гуллівыя і змрочныя прыпавесці асвятляюць забыты вобраз гісторыі».

Апошнімі гадамі ён жыў і працаваў у Любеку на поўначы Нямеччыны.

**На выданьне газэты "Беларус" ахвяравалі:**

| | |
|---|---|
| Янка Барысевіч | $ 40 |
| Вольга Грыцук | $ 250 |
| Нікалас Касьцюк | $ 50 |
| Ліза Літаровіч | $ 75 |
| Кастусь Маталыцкі | $ 60 |
| Уладзімір і Лідзія Ракуць | $ 100 |
| Яўген Смірноў | $ 50 |
| Вячка Станкевіч | $ 50 |
| Янка Шыбут | $ 50 |

***Шчырая падзяка ўсім ахвярадаўцам!***


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
ISSN 1054-9455
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
Belarusan American Ass'n, Inc.

СКЛАД РЭДАКЦЫІ:
Адказны рэдактар
Ганна СУРМАЧ
*surmacova@gmail.com*
Скарбнік, арганізатар падпіскі
Таня КРАСОЎСКАЯ
*premiere718@yahoo.com*
Рэдактарка дзіцячай старонкі
Галіна ПАДЛЕСКАЯ
*galinapodles@hotmail.com*
Адказная за рассылку газэты
Натальля СТАРАВОЙТАВА

Адрас Рэдакцыі:
BIELARUS Newspaper
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432, USA
Паштовы адрас:
P.O. Box 456
New York, NY 10025 USA
Электронны адрас (E-mail):
bielarus@bazahq.org
Кампутарная вёрстка
Mikalai Media Productions

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*
*Грашовыя чэкі выпісываць на імя: BIELARUS Newspaper і дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.*
*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчамі альбо ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.*


*Printed in USA*